


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46a.
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 50 (332) Нядзеля, 9 сьнежня 1956 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 10

# Трывожны білянс апошніх падзеяў

Праўдападобна падзеі за зялезнай заслонай, што гэтак шыбка разыгрываліся на працягу апошніх двух месяцаў, яшчэ не закончыліся й не закончацца тым станам, які вытварыўся сяньня. Праўдападобна гэта толькі першы этап вельмі складанага працэсу, канца якога вельмі цяжка сяньня прадбачыць. Але паколькі гаворым ужо сяньня аб першым як больш менш закончаным этапе, які запоўнілі апошнія выпадкі ў Польшчы й Вугоршчыне ды рэакцыя на іх камуністычнага Ўсходу й дэмакратычнага Захаду, па толькі можна ўжо цяпер даць і некаторыя падагульненьні гэтых вялізарнае гістарычнае вагі выпадкаў і зрабіць зь іх адпаведныя вывады.

### ПАН ЗНАКАМ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНЫХ РЭВАЛЮЦЫЯЎ

Першы акт вялікай драмы разыграўся на сцэнах толькі дзьвюх сатэлітных краінаў: Польшчы і Вугоршчыны. Але мала не хапала, каб ён разыгрываўся і ў іншых сатэлітных краінах. У Румыніі й Баўгарыі зусім выразна насьпявала таксама нацыянальная рэвалюцыя і былі першыя сымптомы яе выбуху. Да самога-ж выбуху не дайшло зь дзьвюх прычынаў: Саветы, навучаныя дасьветчаньнем ў Вугоршчыне й Польшчы, у час прынялі патрэбныя контрмеры з уводам сваіх войскаў у Баўгарыю ўключна. З другога боку, Румыны і Баўгары, пабачыўшы, што Захад ня кіўнуў і пальцам у вабароне Вугоршчыны, паўстрымаліся ў вапошнім мамэньце ад распачлівага акту. Такім чынам тое, што адбылося й адбываецца на тэрыторыі Вугоршчыны й Польшчы, гэта ня два ізаляваныя выпадкі, абмежаваныя сваім засягам да гэтых дзьвюх краінаў, але агульны працэс, супольны ўсім краінам Сярэдня-Ўсходняй Эўропы.

Больш таго! Гэты працэс зьяўляецца супольным і ўсім паняволеным нерасейскім народам самога Савецкага Саюзу. Гэтыя народы ўжо на працягу 39-ёх год вядуць супраць расейскага бальшавізму бесьперапыннае змаганьне, у вір якога кінуліся сяньня й народы Сярэдня-Ўсходняй Эўропы. Розьніца між змаганьнем адных і другіх толькі ў тым, што змаганьня першых Захад ня бачыў і не хацеў бачыць, уважаючы яго за чыста нутраную справу «законна» паўсталае савецкае імпэрыі, а змаганьня другіх, што з выключнай віны таго-ж Захаду сталіся нявольнікамі маскоўска-бальшавіцкага акупанта толькі ў выніку апошняе сьветавае вайны, не заўважыць ужо ня мог.

Такім чынам падзеі ў Вугоршчыне й Польшчы — гэта найбольш сьвежыя й набойльш відавочныя акты магутнага працэсу, які законамерна адбываецца сярод усіх нерасейскіх народаў, што сталіся ахвярамі заўсёды дынамічнага, вераломнага і абнаглелага расейскага імпэрыялізму, незалежна ад таго, у якой форме й пад якім колерам гэты імпэрыялізм выступае. Не дарма апінія Захаду знаходзіць беспасярэднюю аналёгію між цяперашнім паўстаньнем вугорскага народу, крывава здушаным савецкімі танкамі й самалётамі, і нацыянальна-вызвольным паўстаньнем 1848-49 году, гэтак сама ўтопленым у моры крыві царскай расейскай арміяй. І не дарма сьвет бачыць такую-ж аналёгію між апошнімі вызвольнымі рухамі ў Польшчы супраць савецкага акупанта і польскімі нацыянальна-вызвольнымі паўстаньнямі супраць расейскага царызму на працягу цэлага XIX стагодзьдзя.

Тыя заходнія дзейнікі, якія нацыянальна-вызвольныя працэсы ў Польшчы й Вугоршчыне намагаюцца тлумачыць выключна сацыяльнымі прычынамі — нявымоўна цяжкім матарыяльным палажэньнем насельніцтва і яго эканамічным вызыскам, знаходзяцца ў стане поўнага самаабману. Вугорскія работнікі, сяляне, інтэлігенцыя, жаўнеры, жанчыны і мужчыны, старыя і дзеці—увесь вугорскі народ падняўся на няроўнае змаганьне ня толькі за палепшаньне сацыяльных і матарыяльных умоваў жыцьця, але ў роўнай меры і за поўнае вызваленьне ад чужога акупанта і ад усіх тых няшчасьцяў і злыдняў, якія гэты акупант з сабой прынёс. Гэта ёсьць змаганьне за дасягненьне ўсіх тых духовых і матарыяльных вартасьцяў, якія могуць быць здабыткам толькі нацыянальна вольнай і дзяржаўна незалежнай нацыі, калі формы і ўмовы свайго жыцьця дыктуе сам народ.

З усяго вышэйшага ясны вывад, што падзеі ў Польшчы й Вугоршчыне — гэта дзьве розныя формы аднолькавае ў сваей істоце нацыянальнае рэвалюцыі, якая сярод нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу пачалася ўжо 39 год таму назад і якая патэнцыяльна ўсьцяж адбываецца ўсюды там, дзе маскоўскі акупант фізычным гвалтам накінуў сваю ўладу.

### МАСКОЎСКІ КАМУНІЗМ САМ СЯБЕ ЗДЭМАСКАВАЎ

Уся заходняя апінія згодная ў тым, што апошнія выпадкі моцна скампрамітавалі камунізм у маскоўскім выданьні і задалі яму нявылячальны ўдар. Добра прынамся тое, што Захад хоць цяпер пераканаўся аб усім бяздонным хвальшы і праступнасьці расейскага бальшавізму, аб чым мы, прадстаўнікі паняволеных народаў, ведалі з самага пачатку. Разьвеілася, як дым, бальшавіцкая мана, што бальшавізм абапіраецца на вызваленых ім працоўных клясах, у першую чаргу работніках, якім забясьпечыў найлепшыя з усіх магчымых умовы жыцьця й працы. Сьвет пабачыў, што ня «рэакцыйныя элемэнты» і не «агенты капіталізму», але працоўныя, работнікі й сяляне зьяўляюцца найнешчасьлівейшымі ахвярамі бальшавізму й ягонымі сьмяротнымі ворагамі. Чырвоная Масква сама здэмаскавала створаны ёю міт, што толькі савецкая ўлада найсправядлівей разьвязала нацыянальную праблему народаў, і тым самым паказала сваю хвальшывую й крывадушную ролю, як абароньніка нацыянальных імкненьняў паняволеных і адсталых народаў цэлага сьвету. Рэакцыя Масквы на апошнія падзеі адкрыла людзям вочы, што бальшавізм ёсьць аднэй із хвормаў спрадвечнага расейскага імпэрыялізму, мэтай якога ёсьць паняволеньне што раз новых народаў, іхная эканамічная экспляатацыя, а як адзін із спосабаў замацаваньня свайго панаваньня — нацыянальная нівэляцыя нерасейскіх народаў. Гэтая рэакцыя Масквы паказала наглядна і тое, што дыпляматычнай мовай носьбітаў расейскага імпэрыялізму ёсьць абман, подступ і вераломства, а адзіным правам — права фізычнае сілы.

Усе гэтыя й многія іншыя неадлучныя рысы расейскага бальшавізму, задэманстраваныя на прыкладзе апошніх выпадкаў за зялезнай заслонай, не маглі не ўскалыхнуць сумленьнем народаў вольнага сьвету. І ўзноў-жа, супраць усіх гэтых злачынстваў Масквы найбольш войстра запратэставалі якраз працоўныя вольных краінаў — работнікі. Масавыя

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Нацыянальная літаратура і вугорская рэвалюцыя

(З радыёвай хвалі «Вызваленьня»)

У здушванай цяпер Масквой вугорскай рэвалюцыі бярэ ўдзел увесь народ. Супраціў вугорскіх паўстанцаў настолькі вялікі, што дзесяткі савецкіх танкавых і пяхотных дывізіяў мусілі быць пасланыя ў Вугоршчыну. Аднак натхняльнай душой і рухавіком гэтага выбуху нацыянальнага гневу стаўся адзін чалавек, які больш за сто год таму загінуў ад кулі расейскага жаўнера, пасланага тэй-жа Масквой супраць таго-ж вугорскага народу. Гэта — 26-цігадовы паэта **Сандор ПЭТЭФі.**

Вялікая савецкая энцыклапэдыя, не прадбачваючы, зразумела, вугорскіх падзеяў, вось што піша пра Пэтэфі:

«Ягоная творчасьць адлюстроўвала ўздым рэвалюцыйна-дэмакратычнае думкі й нацыянальна-вызвольнага руху 1848-49 гадоў у Вугоршчыне... Гэрой ягоных вершаў з гордасьцяй сьцьвярджае сваю людзкую годнасьць, ненавідзіць нявольніцтва... У часе рэвалюцыйнага паўстаньня 15-га сакавіка 1848 году Пэтэфі стаяў на чале работнікаў і навучэнцаў Будапэшту... Да канца жыцьця Пэтэфі быў адным з арганізатараў нацыянальна-вызвольнага змаганьня й выступаў за адбудову незалежнае вугорскае рэспублікі». (Тады Вугоршчына пад аўстрыйскім панаваньнем).

І вось цяпер сымбаль гэтага маладога паэты-рэвалюцыянэра йзноў павёў — спачатку масу вугорскага студэнцтва, а пасьля й цэлы народ — на «адбудову незалежнае вугорскае рэспублікі». Ужо сам гэты шляхотны сымбаль цяперашніх вугорскіх паўстанцаў — паэта-рэвалюцыянэр Пэтэфі, наўсуперак савецкай прапагандзе, сьветчыць і аб шляхотнасьці ды справядлівасьці іхных дамаганьняў.

Калі 24-га кастрычніка 1956 г. тысячны студэнцкі натоўп дэманстрантаў з дамаганьнямі свабоды сабраўся на пляцы Будапэшту перад помнікам Пэтэфі, там урачыста былі прадэклямаваныя словы паэтавага гімну: «Ўставай, Мадзяр, айчына кліча, настаў вялікі, слаўны час» — і будапэшцкая моладзь узьдымала рукі ў прысязе змагацца да апошняга. Забароненая ўрадам дэманстрацыя ператварылася ў Рэвалюцыю.

Яшчэ задоўга да гэтых падзеяў у Будапэшце імём Пэтэфі быў названы клюб свабоднае дыскусіі вугорскіх пісьменьнікаў і інтэлектуалістых. Гэты клюб якраз і згуляў ролю кузьні рэвалюцыйнае думкі.

Пэтэфі — гэта яркі сымбаль вугорскае нацыянальнае літаратуры. Ягонае жыцьцё й творчасьць — гэта прыклад, як сапраўдны паэта-патрыёт праз вякі можа весьці на змаганьне народ за ягоныя непарушныя правы. І вось у сьвятле гэтых апошніх падзеяў у Вугоршчыне нам становіцца больш выразным і шмат чаго з нашай беларускай нядаўнае гісторыі і сучаснасьці.

Перш за ўсё будапэшцкае паўстаньне наглядна паказвае, чаму бальшавікі ў наступе на беларускую нацыю з такой барбарскай брутальнасьцяй апустошваюць беларускую літаратурную спадчыну. Вугорская рэвалюцыя паказвае нам яшчэ раз тыя мэты, якія ставілі камуністычныя партыйныя кіраўнікі ў 30-х гадох, вынішчаючы сотні беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў, журналістых і студэнтаў. Мы бачым цяпер зь яшчэ большай выразнасьцяй, чаму так ліхаманкава тыя-ж каты беларускае нацыянальнае рэвалюцыі перакрыўляюць творчасьць беларускага Пэтэфі — Янкі **КУПАЛЫ.** Нам становіцца ясным, чаму яны пазапраторвалі ў найдалейшыя закуткі сваіх цэнзарскіх архіваў творчасьць дзесяткаў беларускіх пісьменьнікаў, якіх яны навет імя баяцца ўспомніць. Мы бачым, чаму яны і цяпер загналі ўсю беларускую літаратуру ў сопрэалістычнае стойла, дзе яна страціла наагул свой сэнс і сваё прызначэньне, стаўшыся бізуном непасільнае прыгоннае працы. Мы ўрэшце бачым, чаму, цаной поўнага зьнішчэньня творчае свабоды, калектыўныя гаспадары літаратурнага пяра так дарэмна намагаюцца склеіць штучны зьлепак так званае «савецкае літаратуры»: Масква баіцца нацыянальных літаратур, яна баіцца нацыянальных рэвалюцыяў.

Аб ролі, якую згуляў у вуг
валюцыі сымбаль нацыянал
— паэты Пэтэфі, аб ролі суч
горскіх пісьменьнікаў патрыётаў сваё бацькаўшчыны, павінны памятаць беларускія пісьменьнікі; ад іх беларускі народ чакае слова праўды, чакае сапраўднага выяўленьня набалелых народных пачуцьцяў.

**Я. Запруднік**

# За мінулы тыдзень

**/пс/.** Пупком сьвету апошняга тыдня была...

Калі-б мы шмат каму паставілі пытаньні што да Сырыі, ейнага гістарычнага мінулага, геаграфічнага палажэньня, ейнай дэмаграфіі, статыстычных лікаў, — дык, думаем, шмат хто-б з нас на гэтым эгзаміне праваліўся-б. Праўда, трохі аб Сырыі ведаем, прыкладам, што амаль ад няпамятных часоў Сырыя мела вялікую цывілізацыю і была крыніцай дэправацыі; ведаем, што Дамаск — адзін з найстарэйшых аседлых пунктаў сьвету; ведаем, што там выраблялася найлепшая сталь і г. зв. дамасцэнкі мелі сьветавую славу. Дамаск ужо зафіксаваны ў гісторыі фараонаў з XII стагодзьдзя перад Хрыстом. У Старым Тэстамэньце ўжо сустракаем гарады Сырыі, як Алерпо, Гама.

Калі-ж-бы мы перайшлі да сьвежай гісторыі Сырыі, дык перадусім скажам, што 27 верасьня 1941 году ведамы францускі генэрал Кабру абвесьціў у Дамаску незалежнасьць Сырыі. Было гэта вынікам ангельска-францускіх каляніяльных ліцытацыяў, аднак у канчальным выніку Сырыя сталася незалежнай сувэрэннай дзяржавай. Абвяшчаючы незалежнасьць Сырыі, Французы хацелі праўна і легальна затрымаць апэрацыйныя базы, а пазьней — уплывы, Ангельцы спадзяваліся пераліцытаваць і выпіхнуць Французаў, а ў 1942 годзе ў Сырыю прыйшлі амэрыканскія ўплывы супраць Французаў і Ангельцаў.

Але праўдападобна ўсё было-б добра, калі-б ня тое, што Сырыя ляжыць вельмі-ж блізка да нафты, якую маскоўскі хуліган хоча падпаліць. Вось-жа, як ведаем, бальшавікі ў вапошнім часе выбралі сабе Сырыю, як тэрыторыю сваіх шахер-махераў з шахіншахам іншымі. І, як мы бачым, у вапошнім часе, а перадусім пасьля ангельска-француска-ізраэльскага дэсанту ў Эгіпце і сьмешнай міжнароднай паліцыі Гамэршыльда, Сырыя сталася вочкам у галаве маскоўскай прапаганды. І якраз таму, што ад часу абвешчаньня незалежнасьці Сырыі, і доўга перад гэтым — гэта была сцэна розных інтрыгаў і розыгрышаў. Дык можна сьмела думаць, што і цяперашні прэзыдэнт Кювэтлі ня вельмі-ж ужо такі прэзыдэнт. Але гэта не мяняе сутнасьці справы. Важна тое, што нядаўна Кавэтлі быў у Маскве, дзе яго вельмі цёпла віталі Варашылавы й Хрушчовы... Ну што-ж, як трэба і аплаціцца, яны таксама могуць і хадзіць на двух нагах і, апрануўшы белыя да пятаў кашулі ды ськінуўшы чаравікі,ісьці з паклонамі ў музульманскую сьвятыню або казытаць індыйскага сланя каля хваста.

Як ведаем, маскоўскія палітбюракраты заўсёды маюць тактыку ў палітыцы — «лаві злодзея!» Таму і цяпер, калі яны там намуцілі вады, штодзень крычаць, што Амэрыка, Ангельшчына, Францыя, Ірак, і Бог ведае хто, рыхтуюць агрэсію супраць Сырыі. Ну, і Сырыя сталася гэроям тыдня. Гэта можа навет шмат каму выгадна, бо заўсёды Вугоршчына, Вугоршчына, як скула на сумленьні...

Ужо старасьвецкія рымскія гісторыкі і гумарыстыя апісвалі сырыйскае здрадніцтва, ашуканства і несаліднасьць. Яны маглі памыляцца і ня ўлічваць, што калі хтось быццам-бы вельмі хітры, нехта другі мог-бы быць вельмі наіўны. Таму й сяньня мы скажам біблійнымі словамі: «Калі хто сам бязь віны, хай кіне на Сырыю каменем...»

Фатальнай памылкай заходняга сьвету было тое, што блізарукі стыхійны нацыялістычны панарабскі рух амаль што зусім падпаў пад кантролю бальшавікоў. У кажным выпадку маскоўскім імпэрыялістым далі магчымасьць стацца патронам гэтага руху і ягоным пратэктарам. Гэтую памылку трэба за ўсякую цану направіць. Тут ужо не канкурэнцыя даляра з фунтам-стэрлінгам, тут змаганьне на жыцьцё й сьмерць.

*

Другой паважнай падзеяй і вельмі сумнай падзеяй мінулага тыдня было сур'ёзнае напружаньне англа-амэрыканскіх і француска-амэрыканскіх дачыненьняў. Праўда, у выніку заблякаваньня Суэзкага каналу з Амэрыкі ў Ангельшчыну й Францыю паплыла бэнзына, але думаем, што і бяз бэнзыны гэтыя ахаладзелыя дачыненьні з часам разагрэюцца, і ўсё вернецца ў сваю нармальную каляіну, а бальшавіцкая радасьць, што Атлянтычны блёк і НАТО ўжо разваліліся, зашмат передчасная. У сьвятле некансэквэнцыяў і непрадбачаньняў ангельскага й францускага ўрадаў можна не згадзіцца з дэкляарацыяй бальшыні ангельскіх кансэрватыстых і ангельскае прэсы, якія абвінавачваюць цяперашні амэрыканскі ўрад у вадсутнасьці якой-колечы палітыкі наагул. Аднак, здаецца, праўды трэба шукаць пасярэдзіне.

*

Як заўсёды, у гэтых бурных падзеях застаюцца незаўважанымі можа ня менш цікавыя здарэньні. Гэткімі, прыкладам, ёсьць розыйгрышы ў камуністычным блёку. Адным з такіх ёсьць розыйгрыш паміж Цітам і Годжам. Як ведама, маленькая й бедная Альбанія была найбольш антыцітаўскай між іншымі краінамі-сатэлітамі. Там найбольш крывава распраўляліся зь цітаістычнай гэрэзіяй. Пасьля паломніцтва маскоўскіх калектыўных царкоў у Белград, а перадусім пасьля апошняга «адпачынку» Хрушчова ў Югаславіі, да Ціты з паклонамі пачалі езьдзіць амаль усе марыянэткі Масквы ў Усходняй Эўропе. Аднак Годжа, хоць яму было найбліжэй, з паклонам не паехаў. Наадварот, пры кажнай нагодзе вельмі-ж крытычна выказваўся пад адрасам Ціты. Цікава, што Масква не забараніла Годжы гэтых пэрвэрсіяў. І ня менш цікава, што ў вапошнім часе ў савецкай прэсе пачалі часта паяўляцца артыкулы Годжы, у якіх гэты альбанскі Сталін проста кпіць зь Ціты. Гэты апошні папрабаваў лаяцца, але Годжа адказаў расстрэлам «югаслаўскіх шпіёнаў». Адным словам, Годжа даволі выразна правакуе Ціту і Ціта вельмі-ж мякка рэагуе на гэта, хаця адрэзанай ад Савецкага Саюзу Альбаніі бадай хапіла-б Ціту на адно сьнеданьне. Пры гэтым Ціта вырваў-бы вельмі-ж важны зуб Хрушчову, бо адзіную й вельмі важную базу на Адрыятыку. Тут-бы шмат можна паставіць гэпатэзаў, у тым ліку й гэтую, што ёсьць некаторыя дзяржавы, якія ўсё-ж ня маюць палітыкі...

*

Што-ж датычыцца Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, дык там цярпліва чакаюць, калі напасьледак Кадар (чытай Масква) згодзіцца дазволіць на ўезд у Вугоршчыну некалькім заходнім назіральнікам. Але Масква не зацікаўленая паказаць заходнім эстэтам крывавую бойню. Таму можна спадзявацца, што ў Нью Ёрку яшчэ доўга будуць чакаць.

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**У сувязі з набліжэньнем Новага 1957 году пара ўжо аднавіць падпіску на тыднёвую беларускую газэту «Бацькаўшчына«. Цана газэты астаецца тая самая, што й дагэтуль. Яна паказаная на першай бачыне «Бацькаўшчыны» з правага боку ў самым версе. Гэтаксама, як і дагэтуль, падпішчыкі «Бацькаўшчыны» будуць і ў 1957 годзе атрымліваць бясплатна месячны ілюстраваны часапіс для дзяцей «Каласкі».**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

# Трывожны білянс апошніх падзеяў

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

выхады зь ліку сяброў камуністычных партыяў Захаду, пратэсты заходніх работніцкіх прафэсіянальных саюзаў супраць савецкай масакры вугорскіх паўстанцаў, адмовы партовых работнікаў ~~заходніх краінаў~~ наладоўваць і разладоўваць савецкія караблі або, напасьледак, студэнцкія й работніцкія маніфэстацыі ў заходніх сталіцах уключна з пагромамі савецкіх дыпляматычных прадстаўніцтваў — усё гэта нязьбітыя канкрэтныя праявы банкроцтва камунізму. Навет народы нэўтральных краінаў паўдзённа-ўсходняе Азіі, ведамыя із сваіх сымпатыяў да камунізму й Савецкага Саюзу, не маглі не пабачыць, што пад дымавой заслонай салодкае савецкае прапаганды хаваецца жахлівая запраўднасьць. Гэткім чынам здушаная савецкімі танкамі, але духова ня пераможаная Вугоршчына згуляла вялікую гістарычную ролю й нанесла нявымоўна балючы ўдар па савецка-камуністычнай сыстэме.

### ГАНЕБНАЕ КАПІТУЛЯНЦТВА ЗАХАДУ

Але ў той час, калі вугорскі народ коштам собскай крыві здэмаскаваў усе злачынствы бальшавіцкай сыстэмы і калі апінія вольнага сьвету гэтыя злачынствы належна закляйміла, урады й афіцыяльныя палітычныя дзейнікі Захаду паказалі бяспрыкладную маладушнасьць і палітычную блізарукасьць. Палітыка дзяржаўнага маштабу ніколі ня кіравалася маральна-этычнымі прынцыпамі, але эгаістычным інтарэсам. Але прынамся захоўваліся хоць формы прызвайтасьці. Цяпер-жа, у выпадку Вугоршчыны, Захад не патрапіў здабыцца навет на найменшыя, хоць-бы й чыста фармальныя, жэсты. Панічны й зусім неабаснаваны страх перад Саветамі й ня менш неабаснаваная надзея, што можна абясшкодзіць расейскага мядзьведзя, калі яго ласкава гладзіць, прытупіла ў заходніх палітыкаў усякае вычуцьцё рэальнасьці.

Мы ўжо не гаворым аб тым, што трэба было ультыматыўна загразіць Маскве прэвэнцыйнай вайной і зажадаць, каб спыніла сваю збройную інтэрвэнцыю ў Вугоршчыне, або выслаць туды паліцыйныя збройныя сілы Задзіночаных Нацыяў. Такія меры, у дадзеным выпадку зусім натуральныя й неабходныя, яшчэ ня выклікалі-б трэйцяе сьветавае вайны, якой Захад, як агню, баіцца. Усё гаворыць за тым, што пры такой цьвёрдай пазыцыі Захаду, Савецкі Саюз быўбы змушаны скапітуляваць, бо разумее, што сьветавая вайна ў сяньняшні мамэнт для яго страшнейшая, чымся для Захаду.

Але быў рад іншых магчымасьцяў, каб спыніць савецкую агрэсію супраць Вугоршчыны, не правакуючы Саветаў да вайны. Гэткай магчымасьцю, прыкладам, мог-бы быць эканамічны байкот савецкага блёку і зрыў зь ім дыпляматычных і ўсякіх іншых дачыненьняў. Але Захад ня толькі не адважыўся зрабіць гэтых неабходных крокаў, але ў разгар вугорскага паўстаньня й польскіх падзеяў даў яшчэ Маскве зразумець, што на яе збройную інтэрвэнцыю ў гэтых і іншых сатэлітных краінах сам рэагаваць збройна ня будзе. Гэткія заявы зрабілі ў той час міністар замежных справаў ЗША Далес і былы камандуючы збройнымі сіламі Атлянтычнага пакту генэрал Грунтэр. Дык ці-ж было патрэбна Саветам чагось больш, як гэтай упэўненасьці, што з сатэлітамі могуць рабіць, што толькі захочуць, а заходнія вялікадзяржавы ня кіўнуць і пальцам? Або ці-ж не камэдыяй зьяўляецца ўся працэдура ў гэтай справе ў Задзіночаных Нацыях? Ужо наступіў другі месяц, як бальшавікі, ня гледзячы на ўвод імі ў Вугоршчыну вялізарных збройных сілаў і жахлівы тэрор з масавымі дэпартацыямі, ня могуць канчальна здушыць вугорскага паўстаньня, а Задзіночаныя Нацыі ўсё яшчэ цярпліва чакаюць, калі рэжым Кадара дазволіць ім выслаць у Вугоршчыну шасьцёх абсэрватараў. Каму і пашто гэтая шасьцёрка патрэбная, калі і безь яе дастаткова ведама, што ў Вугоршчыне адбываюцца найбольш вырафінаваныя бальшавіцкія злачынствы?

Беспадстаўны страх перад Саветамі лёг ня змытым кляймом на палітыцы Захаду і зьяўляецца найвялікшай прычынай усіх няшчасьцяў. Гэты страх стаўся вырашальным фактарам і ў падзеях у справе Суезу. Мы ўжо пісалі, што збройнае ўмяшаньне ў Суэскі канфлікт Вялікабрытаніі й Францыі ў мамэнт, калі ўся ўвага вольнага сьвету мусіла быць зьвернутая на Вугоршчыну, зьяўлялася крокам эгаістычным і палітычна шкодным. Але распачаўшы гэтую збройную інтэрвэнцыю, абедзьве эўрапэйскія вялікадзяржавы спыніліся на поўдарозе, ня толькі нічога не дасягнуўшы, але і шмат страціўшы, і ўзноў-жа з прычыны таго-ж страху перад Савецкім Саюзам. Дастаткова было крэмлёўскім верхаводам пагразіць вадароднай бомбай і высланьнем у Эгіпт савецкіх і кітайскіх «ахвотнікаў», каб абедзьве дзяржавы скапітулявалі. Праўда, на Захадзе інтэрпрэтуецца, што галоўнай прычынай спыненьня ваенных дзеяньняў Ангельшчынай і Францыяй у Эгіпце быў ціск Задзіночаных Нацыяў. Але ціск гэты быў выкліканы ня чым іншым, як узноў-жа страхам перад Савецкім Саюзам.

### СУСЬВЕТНАЯ ЗАГРОЗА ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ

На Захадзе ажывіліся надзеі, што, як паказалі цяперашнія выпадкі за зялезнай заслонай, савецкая сыстэма сама сабой ідзе ў кірунку раскладу. На гэтым сяньня галоўным чынам і базуюцца палітычныя прадбачваньні Захаду. Але, на нашую думку, ня можа быць больш шкоднага самаабману, чымся такое хвальшывае меркаваньне. Савецкі Саюз ужо ня раз знаходзіўся над пропасьцю, здавалася-б, няўхільнай пагібелі, але пры пасыўнасьці й уступлівасьці Захаду заўсёды перамагаў свае цяжкасьці. З усіх калі-небудзь ведамых цяжкасьцяў савецкая сыстэма перажывае сяньня найвялікшы крызіс. І ейны ўпадак быў-бы няўхільны, калі-б Захад здабыўся на патрэбную станоўчасьць і палітычную далёказоркасьць.

Паколькі Захад паказаў сябе на гэта няздольным, Савецкі Саюз мае ўсе дадзеныя выйсьці пераможна і зь сяньняшняга крызісу. Паняволеныя народы бяз помачы Захаду самі вызваліцца ня змогуць, бо ня могуць збройнай сіле ворага проціставіць собскай збройнай сілы. Пасыўнасьць і разгубленасьць Захаду ў вабліччы вугорскіх падзеяў дастаткова паказалі паняволеным народам, што ніякай помачы ад Захаду яны ў сваім вызвольным змаганьні чакаць ня могуць. З другога боку і Саветы лішні раз пераканаліся, што ніякая небясьпека з боку Захаду ім не пагражае. Значыцца, могуць ня толькі справіцца лёгка з рознымі нутранымі цяжкасьцямі ў сябе дома, але й далей бясьпечна й беспакаральна прадаўжаць свой наступ супраць вольнага сьвету на ягонай собскай або ім кантраляванай тэрыторыі.

Падзеі сяньня разьвіваюцца вельмі шыбка. Калі, прыкладам, у вадным тыдні здаецца, што загроза трэйцяй сьветавай вайны аддаляецца, дык у наступным тыдні, наадварот, гэтая загроза выступае ўва ўсей рэальнасьці. Цяжкі нутраны крызіс сабецкага блёку ня можа быць перашкодай для разьдзьмуханьня Саветамі сьветавае вайны, затое можа быць аднэй із спробаў выйсьці з гэтага крызісу. І калі сьвет будзе кінуты ў пажар новае сьветавае бойні, дык галоўнай прычынай гэтага будзе пераўвялічаны да несамавітых разьмераў страх перад Саветамі.

**Язэп Каранеўскі**

# МЭМАРАНДУМ

## ЛІГІ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ НАРОДАЎ СССР (ПАРЫСКІ БЛЁК ЗЛОЖАНЫ 45-АЙ КАНФЭРЭНЦЫІ МІЖПАРЛЯМАНТАРНАЙ ВУНІІ Ў БАНГКОКУ (ТАЙЛЯНД)

Спадар Прэзыдэнт,

Ліга Вызваленьня Народаў СССР вітае Канфэрэнцыю Міжпарлямэнтарнай Вуніі й мае гонар прасіць Вас давесьці да ведама ўдзельнікаў Канфэрэнцыі наступнае:

Нашыя народы, што складаюць больш за палову жыхарства Савецкага Саюзу, былі заваяваныя й далучаныя ў розныя часы да Расейскае імпэрыі.

У часе рэвалюцыі 1917 г. яны аддзяліліся ад Расеі й стварылі свае собскія рэспублікі, незалежнасьць якіх была прызнаная дэ факто шматлікімі дзяржавамі, а цэлым шэрагам гэтых дзяржаваў, у тім ліку й Савецкай Расеяй яны былі прызнаныя і дэ юрэ

Ня гледзячы на гэта савецкі ўрад, як толькі авалодаў у грамадзянскай вайне тэрыторыяй собскай Расеі, вераломна накіраваў сваю зброю супраць нашых краёў, заваёўваючы іх адзін за другім

Праўна выбраныя дэмакратычныя парляманты й урады нашых нацыянальных рэспублік былі зьліквідаваныя. Паслы парлямантаў і міністры былі расстраляныя ці дэпартаваныя. Такі-ж самы жорскі лёс сустрэў людзей навукі й нацыянальную інтэлігенцыю ды шырокія колы насельніцтва заваяваных савецкай уладай рэспублік.

Рэлігія была абвешчаная «опіюмам народу» і зганьбаваная. Цэрквы, мэчэты, сьвятыні буддыстых і жыдоўскія былі зьнішчаныя або замененыя ў клюбы, магазыны ці месцы забаваў, а сьвятары ўсіх рэлігіяў былі або зьнішчаныя або дэпартаваныя ў Сібір.

Усе заваяваныя рэспублікі былі падпарадкаваныя цэнтральнай уладзе ў Маскве і саветызаваныя. Атрымаўшы афіцыйны назоў саюзных ці аўтаномных рэспублік, яны, на справе, сталіся аб'ектам каляніяльнага рабаўніцтва й самавольства. Міліёны нявінных сялян і работнікаў нашых краёў загінулі ад чырвонага тэрору ў часе прымусовай калектывізацыі, штучна выкліканага савецкім урадам голаду, у часе ўсялякіх «чыстак», перасяленьняў і высылак, што працягваюцца й да гэтага часу. Колькасьць загнаных у канцэнтрацыйныя лягеры немагчыма навет падлічыць.

Дыктатура, рэалізаваная камуністычнай партыяй, а фактычна некалькімі людзьмі Прэзыдыюму Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі Савецкага Саюзу, непахісна прадаўжае сваю разбуральную працу, мэта якое — пашырэньне камунізму й захоп улады над усім сьветам.

Дэмакратыя, свабода чалавека й нацыі, свабода рэлігіі й прэсы ня прызнаюцца ў Савецкай імпэрыі. Парлямант, як вышэйшы законадаўчы ворган, ня існуе. У СССР існуе поўнае бяспраўе над прэцоўнымі, дзе дыктатура камуністычнае партыі пазбаўляе грамадзян ня толькі палітычных правоў, але й жыцьця, фізычна зьнішчаючы цэлыя групы народу, а навет і цэлыя народы. Прыкладам гэтага можа быць гэнэсыд над музульманамі Каўказу й Крыму з поўнай ліквідацыяй аўтаномных рэспублік Чэчэна-Інгушоў, Карачай-Балкараў і Крыму. У тымжа 1944 г. падобны лёс сустрэў Калмыкаў — народ мангольскай расы, буддыскай рэлігіі, а таксама Немцаў знад Волгі ды цэлы шэраг нацыянальных мяншыняў у СССР. Ува ўсіх названых рэспубліках і аўтаномных вобласьцях было зьнішчана больш за 3 міліёны чалавек.

Больш за 7 міліёнаў Ўкраінцаў зьгінула ў часе штучна выкліканага савецкай уладаю голаду на Ўкраіне ў 1932-1933 гадох. Гэнымі-ж гадамі ад такога-ж голаду загінула больш за 2 міліёны Казакаў на тэрыторыі Казакіі ды каля міліёна Туркестанцаў у Туркестане.

У гэтых праступствах савецкага ўраду прызнаўся нарэшце Мікіта Хрушчоў у сваёй прамове на закрытым пасяджаньні XX зьезду камуністычнай партыі ў Маскве 24 й 25 лютага 1956 году. Тым ня менш Хрушчоў не пасароміўся сказаць у тым-жа дакладзе, што «СССР лічыцца узорнай шматнацыянальнай дзяржавай, таму што мы на практыцы забясьпечылі роўнасьць і дружбу ўсіх народаў, што жывуць на нашай вялікай бацькаўшчыне».

Такія важныя дзяржаўныя пытаньні, як ліквыдацыя шэрагу рэспублік і народаў, абмяркоўваюцца не ў Вярхоўным Савеце, які мае толькі фасаду парляманту СССР, а ў прэзыдыюме ЦК камуністычнае партыі.

Ці-ж пытаньне народазабойства й ліквідацыі рэспублік і вобласьцяў было абмяркоўванае ў Вярхоўным Савеце, ці хаця-б у вадной зь яго палат? Як баранілі яны «нацыянальныя асаблівасьці» сваіх народаў і як рэагавалі на гэтыя праступствы іншыя дэпутаты Вярхоўнага Савету? І як, нарэшце, рэагавала на гэтыя страшэнныя праступствы савецкая юстыцыя?

Яны не рэагавалі наагул, ці йнакш — мёртвым маўчаньнем. Вядома, што Вярхоўны Савет 25 чэрвеня 1946 г. з маўчаньнем выслухаў заяву сакратара Бахмурава аб ліквідацыі 1 міліёна музульманаў Каўказу й Крыму на аснове дэкрэту савецкага ўраду. Ні адзін дэпутат Вярхоўнага Савету не пасьмеў навет сказаць слова супраць гэтага абуральнага праступку.

Мы пасьвятчаем, што ў СССР няма ў савецкіх дэлегацыяў, прысутных на ёй, што яны зрабілі як сябры Вярхоўнага Савету, каб не дапусьціць да вышэйўспомненых страшэнных праступстваў, што яны зрабілі, каб вярнуць на свае бацькаўшчыны міліёны вывезеных і вязьняў?

Мы пасьвятчаем, што ў СССР няма парляманту, няма вольных выбараў, а існуе толькі сурагат парляманту ў выглядзе Вярхоўнага Савету, які ня ёсьць ані вольна выбраным ні вольна дзеючым парлямантам, будучы поўнасьцяй на ўслугах г. зв. «калектыўнага кіраўніцтва». Дэпутаты Вярхоўнага Савету ня ёсьць вольна выбранымі прадстаўнікамі народаў СССР, яны назначаюцца прэзыдыюмам ЦК камуністычнай партыі. У СССР выбары ў гэтак званыя законадаўчыя ворганы — гэта насьмешка над правам свабоднага волявыяўленьня народаў, камэдыя, у якой кожны раз у выбарах 99% выбаршчыкаў прымушаныя галасаваць толькі за камуністычную партыю.

Нашыя народы, ня маючы магчымасьці зьдзейсьніваць свае законныя правы й волю, змушаныя да апошняга ў сваіх магчымасьцях — да паўстаньняў супраць савецкага дэспатызму, аб чым сьветчаць шматлікія паўстаньні на Каўказе, Казакіі, Украіне, Туркестане й Беларусі. Гэтыя паўстаньні, аднак, жорстка здушваюцца савецкімі сіламі пры ужываньні навет газаў.

На аснове вышэйпададзенага мы маем гонар прасіць Вас, спадар Прэзыдэнт, давесьці да ведама Канфэрэнцыі і прадстаўленых на ёй парлямэнтарных дэле-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

18)

# На нівах і ўзвышшах беларускага слова

## Будзіцель

Яму належаць зьмяшчаныя у № 6 «Нашае Долі» вершаваны пераклад з польскага — з Крашэўскага «Пан і мужык» ды арыгінальны собскі даўжэйшы верш »Гоп! гоп! засьпяваўбыб...», які падаем цалком.

### ГОП! ГОП! ЗАСЬПЯВАЎ-БЫБ...

Гоп! гоп! засьпяваў-быб...
Ой, што, што я таму даў-быб,
Хто-б зрабіў, каб я вясёла
Засьпяваў: каб увакола
Загрымелі песьняй горы,
Зазванілі звонам зоры,
Зашумелі лясы цёмны,
Задзындзэлялі бяздомны
Птушачкі... а рэчкі, боры
Каб гукалі, нібы ўторы,
А ў тым звоне, у тым сьпеве,
Песьні вясёлай павеве,
Калі сьпявала-б уся натура,
Песьня людзкая — панура
Песьня грозы і праклёнства,
Сьціхла-быб... а ў цішы той
Усе-б прыслухаліс сьвятой
Песьні жыцьця — бо прыроды,
Песьні шчасьця — бо свабоды...
І забылі-б аб горы,
Бо на жыцьцевым прасторы
Песьня велька-б праляцела
І пхнула-б людзей да дзела...
Эй!... Эй!... ня будзець ніколі
Песьні такой, бо у болі
Трудна на песьню здабыцца...
Засьпявай — то і абліцца
Трэба горкімі сьлязамі
І над нотай і слывамі.
І ніхто, нішто на сьвеце
Вясельля ня дасьць паэце.
Пакуль боль нас, гора мучыць
Такой песьні хто-ж навучыць?!...

## І. Ізгур

Яму належаць вершы: «Усюды кроў» (у №5 «Нашае Долі»), «Голад» (у №6) і «Айчына ў цьме» (у №6). Падаём апошні.

### АЙЧЫНА Ў ЦЬМЕ

Апусьцілася глухая
Ноч над роднай стараной.
І зноў ліўня ня сьціхае,
Льлецца цягам над зямлёй.

Цёмны, велькія зноў хмары
Усё неба занялі...
Нудны восені дні шары
Замест лета нам прыйшлі.

Плачаць вецер над прасторам
У барох і на палёх,
Плачаць, стогнець сьлёзным хорам
Жыцьце ў муках і балёх.

Непагода гэта, сьлякаць
Жыцьця стогны глуша ўсе,
І з натураю паклякаць
Нібы страшна сьмерць ідзе.

І бушуець громка бура
Ў нашай беднай старане...
Хмары зьвісьліся панура...
Цісънуць грудзь радной зямле.

Нат. ак. Карскі назваў мову гэтых вершаў «няважнаю». «Няважнасьць» гэтая найбольшая ў першым вершы — «Усюды кроў», асабліва ў канцы:

Няуж, зямля, о маць-зямля! —
Мір даўгажданны — плод запрэтны?
Няуж ня ўстанець нам зара
Любві ўсяобшчай, беззаветнай?

Ці-ж не бязьмерная, папраўдзе, воддаль, пройдзеная беларускім вершаваным словам ад часаў, калі магчымая была яшчэ ў друку гэткая «няважнасьць» мовы — дый тэхнікі, пэўна-ж — пры ўсёй відавочнасьці найлепшых намераў аўтароў-піянэраў?

## 5) На узбоччы літаратурнага працэсу

Тымчасам як беларускі літаратурны працэс данашаніўскіх (умоўна — «нашадольскіх») пачаткаў XX в. ішоў у рэчышчы спадкаемства й актуалізацыі спадчыны канцавечча XIX в., некаторыя пісьменьнікі пабеларуску ў сваіх творах гэтага-ж часу ня былі ўлучыўшыся ў гэны працэс, стаўшы збоку яго — на ўзбоччы.

## Аляксандар Ельскі

Сучасьнік і прыяцель яшчэ Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Аляксандар Ельскі (1834—1916) пісаў у тым самым кірунку, што й ён, і ў пару канцавечча XIX в. і на працягу ўсяго свайго жыцьця ў XX в., застаючыся ўвесь гэты час на ўзбоччы беларускага літаратурнага працэсу, на даўно ўжо аджытай стадыі яго зь сярэдзіны XIX в. У 1900 г. Ельскі выдаў у Пецярбургу вершаванае «Слова аб праклятай гарэлцы й аб жыцьці й сьмерці п'яніцы». Гэта ці не найбольш папулярны твор Ельскага; прынамся, ён запісаны этнографамі з народных вуснаў аж у Горадзеншчыне даволі даўгімі сваймі кавалкамі. З другога боку, твор вельмі характэрны і сваім маралістычным кірункам і сваім вершам ня толькі для Ельскага, але й для ўсяго пісьменства «для народу», прадстаўленага Янам Чачотам (да некаторых зь ягоных «песьняў» дадзены твор асабліва блізкі), В. Дунінам-Марцінкевічам ды ананімнымі найчасьцей аўтарамі розных вершаваных «казаняў» зь сярэдзіны XIX в. Як узор усяго гэтага, падаём тут частку яго зь некаторымі скаротамі.

### АБ ЖЫЦЬЦІ Й СЬМЕРЦІ П'ЯНІЦЫ

Людзі у сьвяткі моляцца Бажочку,
А ён сабе зранку з чортам у шыночку;
Яго чорны дзеткі, так як галавешкі,
А ён п'е гарэлку ды ўсё строіць сьмешкі.
Яго згніла хата дый дзіравы стрэхі,
А ён у карчомцы сядзіць для уцехі;

